ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Office: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2 U.S. address: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U.S.**

**Год 16** Жнівень, 1990 Нр. 3(59)

## »СУВЭРЭННАСЬЦЬ» І ТАЛОНЫ

— Куды гэта цябе нясе, Сьцяпан?
— Ды я ў чаргу сьпяшуся, Максім.
— Гэта ў каторую? Ды чаму ты без авоські?
— Там саварэннасьць даюць, авоськаў ня трэба...
— Гэта як яны яе, тую саварэннасьць, на кілаграмы, ці што?
— Доўбня ты, ня ведаеш! Гэта цяпер во Украіна кусок той саварэннасьці адхапіла і нам, кажуць з Масквы прыслалі, дык бегчы трэба.

— А з чым яе, тую саварэннасьць, есьці?

— Дзівак ты. Яе не ядуць. Гэта такое права, каторае даюць нам што, значыцца, можам у сваім доме, значыцца ў Беларусі, гаспадарыць...

— Ага, во як яно. Ну дык чаму ў чаргу?

— Бо многа ўсякіх народаў і нацменаў туды пхаецца, дык во чаму, каб, значыцца той саварэннасьці не празяваць...
— Гаспадарыць, кажаш, самі будзем... Ну а як тады з калхозамі? Параськідаем іх ці маскалём назад аддадзём?
— Ды кажуць, што яшчэ будуць.
— Во як... А гэтых дармаедаў і цівуноў, камуністычную буржуазію, куды іх?
— Чорт іх разьбярэ. Можа дзе зашыюцца, паразіты. Некаторыя кажуць, што будуць нам памагаць той саварэннасьці даглядаць...
— Га? Памагаць? Каб на іх безгалоўе! А што маскалі зробяць са сваімі ракетамі і іншым ваенным барахлом, каторым нашыя лясы, нівы й сенажаці запаскудзілі-замарылі?
— Ня ведаю. Заберуць, можа...
— А ці вернуць яны нам усё наша, што зрабавалі, адшкадаваньне ці дадуць, моладзь нашу з войска ці вернуць?
— Ды адкуль мне ведаць...
— Адным словам, віламі па вадзе пісана?..
— Ну а ты, Максім, куды з авоськай?
— Бягу па тыя талоны, што во на крупы, муку й макароны, ды можа й на мыла... Баба ўжо паўдня ў чарзе недзе душыцца.
— А дзе яны тыя талоны даюць?
— Там дзе некалі рабсілу на БАМ зганялі-запрагалі...
— Дык што там чуваць? Чаму, кажаш, баба паўдня ў чарзе?
— Ды таму, што, кажуць, аж у тры чэргі трэба. У першай даюць бланкі, каторыя трэба падрабязна выпаўніць: дзе працуеш, дзе прапісаны, колькі гадоў, якога сацыяльнага паходжаньня, кім былі дзед і баба, ці быў калі пакараны ды й за што й гэтак далей. Тады, напісаўшы гэта ўсё ў трыплікаце, душыся ў чарзе да нейкага другога ханжы-зазнайкі. Калі-ж ён апрабуе, трахне пячаткай, значыцца, тады ў трэцюю чаргу тыя талоны каб атрымаць. Ну а як іх, знацца тых талонаў ня хопіць, тады скажуць калі яшчэ прыйсьці й па колькі тых крупаў, макаронаў і іншага перабудовачнага дабра будуць разьмяркоўваць...
— Хаханькі табе! Аж тры чэргі!
— Ну але, як ты кажаш, што як тую саварэннасьць дадуць, дык можа што на лепшае зьменіцца...
— Можа, можа... Калі яны, чэрці лысыя, што добрага зрабілі? Народу мільёны ў Гулагу, Курапатах загубілі, а цяпер во Чарнобылем травяць. Казаў некалі наш вялікі Кастусь Каліноўскі, што калі маскаль над табой панаваць будзе то ніякага дабра, ні навукі, ні сьвятла ня будзе... І праўду казаў...
— А я кажу, што ня трэба чакаць, пакуль што дадуць, а ў каршэнь іх ды ў тую праклятую Маскву гнаць, во як! Каб больш іхнага смуроду тут ня было!
— Праўду кажаш, Сьцяпан. Вон іх, прыблудаў-нехрыстаў!!

*К.Акула*

**ВІНШУЕМ БЕЛАРУСЬ**

*з нагоды абвешчаньня ейнае сувэрэннасьці і жадаем далейшага прагрэсу*

*да поўнае незалежнасьці ад Масквы і "імпэрыі зла!*

# У 150-я ЎГОДКІ СКАСАВАНЬНЯ СТАТУТУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Праўнае дзеяньне законаў Статуту на землях Беларусі, далучаных да Расеі ў 1793 і 1795 гадох — у Віленскай, Гародзенскай і Менскай губэрнях і Беластоцкім ваяводзтве — было спыненае адмысловым указам цара Мікалая І-га Сэнату аб увядзеньні расейскага заканадаўства і расейскае мовы ў заходніх губэрнях ад 25-га (ст.стылю) чырвеня 1840 году. На тэрыторыях, захопленых Расеяй у час першага падзелу Рэчыпаспалітай у 1772/3 гадох, гэта значыць у губэрнях Віцебскай і Магілёўскай, статут замянілі расейскім заканадаўствам раней — 18-га лютага 1831 году.

Адначасова із скасаваньнем Статуту ВКЛ 1588 году, было зьнесенае магдэбурскае права шматлікіх беларускіх гарадоў і ўсякія пастановы соймавых канстытуцыяў, якія да гэнага часу яшчэ абавязвалі, а на іхнае месца былі ўведзеныя расейскія законы з расейскай мовай, як абавязковай. На ўсе галіны гаспадарчага і палітычнага жыцьця пашыралася дзеяньне расейскага заканадаўства. Усе судовыя, адміністрацыйныя, грамадзкія акты павінны былі складацца толькі на расейскай мове. На ёй павінна было весьціся і выкладаньне ў навучальных установах.

"З хвілінай апублікаваньня...гэтага нашага ўказу, — загадваў цар Мікалай І-шы, — усе справы, як у адміністрацыі, гэтак і судох, ня выключаючы і справаў дваранскіх дэпутацкіх збораў і адміністрацыі, праводзіць парасейску паводле прынятых для ўсяе Імпэрыі формаў, а таксама ад гэтага часу ўсе наогул акты і дакумэнты, якога-б яны ня былі роду і названьня, пісаць расейскай мовай паводле правілаў і ўзораў, устаноўленых у агульным Зводзе законаў Расейскае Імпэрыі".

Намагаючыся зьнішчыць усё, што магло-б напамінаць пра Беларусь або ейны гістарычны тэрмін Літву, як асобны нацыянальны рэгіён із сваімі гістарычнымі , культурна-бытавымі і моўнымі асаблівасьцямі, Мікалай І-шы ўказам ад 18-га ліпеня таго самага 1840 году забараніў таксама ўжываць тэрміны "беларускія" і "літоўскія" губэрні, загадваючы называць іх кажную асобна сваім назовам — Віцебскай, Магілёўскай, Віленскай і Гародзенскай, а пачынаючы ад 18-га сьнежня 1842 году ўжываць да іх тэрмін "Паўночна-Заходні Край". Назва гэтая асабліва шырака пачала ўжывацца пасьля паўстаньня Кастуся Каліноўскага 1863-1864 году.

Год раней, 6-га красавіка 1839 году, тойсамы цар Мікалай І-шы падпісаў Саборны Акт пра далучэньне Вуніяцкае Царквы да Праваслаўнае. Гэта сталася афіцыйнай ліквідацыяй вуніі ў Беларусі.

Ліквідацыя вуніі, скасаваньне Статуту ВКЛ і забароны ўжываньня тэрмінаў "Беларусь" і "Літва" былі трымя з шматлікіх мерапрыемстваў царскіх уладаў, накіраваных на поўную русыфікацыю беларускага краю, на спыненьне працэсу нацыянальнага разьвіцьця беларускага народу, ягонае культуры й мовы пасьля захопу Беларусі ў канцы 18-га стагодзьдзя і далучэньня яе да Расейскае імпэрыі. Гэтыя мерапрыемствы датычылі пытаньняў кіраваньня, суду, асьветы, культуры й рэлігіі. Гэтак у мясцовыя адміністрацыйныя і палітычныя воргане назначаліся толькі расейскія чыноўнікі, а мясцовым ураджэнцам доступ быў абмежаваны. Для заахвочваньня расейскіх чыноўнікаў да пераезду ў Беларусь ім даваліся перавагі ў аплаце і павышэньні на службе.

У 1832 годзе быў арганізаваны "Асолбы камітэт у справах заходніх губэрняў". "Яго задачамі, — адзначаецца ў 1-м томе 'Гісторыі БССР', 72 г. выданьня, — зьяўляліся распрацоўка і ажыцьцяўленьне адміністрацыйных і палітычных мерапрыемстваў дзеля прывядзеньня краю да пакоры, забясьпечаньня трывалага становішча царызму й непахіснасьці прыгоннага ладу. З гэтай мэтай камітэт прапанаваў ажыцьцяўляць палітыку насаджэньня рускага дваранства, перасяляць сюды рускіх казённых сялян, даючы ім некаторыя льготы, каб такім чынам ураду забясьпечыць падтрымку "ў людзях простага званьня".

Словам, Беларусь была ператвораная ў расейскую калёнію, у "Забраны край", у якім, як пісаў Янка Купала ў аднайменным вершы:

Сыны зямлі роднай чужыя палеткі
Ў чужую карысьць засяюць
Нав родных папарах галодныя дзеткі
Чужую жывёлу пасуць...
Кладуцца заломы... Дабро зьмей валоча...
Цянюе ля хат ваўкалак...
Нячысьцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы,
"Забраны край" тузаюць так.

Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы;
На стражы пастаўлен сынок;
У поўных калісьці ад шчасьця сьвятліцах
Чужак зьневажае дачок.
Дзяцей сваіх маткі кідаюць у зьдзеку,
За "мамак" к наездцам ідуць,
А тыя за іх малако, за апеку
"Забраны край" болей гнятуць.

Мальбішчам чужым б'е пакора паклоны;
Упадку вялічыцца сьцяг;
З балотам зьмяшаны старыя законы,
Наладжан нявольнічы шлях.
Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы
Народным дабром, як сваім...
Заплача ў пагоду канюх па расінцы, —
"Забраны край" жаліцца зь ім.

Вернемся да Статуту ВКЛ 1588 году, скасаванага указам Мікалая І-га 25-га чырвеня 1840 г. у тых губэрнях, дзе ён яшчэ дзейнічаў. Статут гэты, як вядома, быў трэцім ужо зборам беларускага права. Першы Статут ВКЛ быў складзены ў 1529 годзе. Ён дзейнічаў у сярэдзіне 16-га стагодзьдзя. Другі Статут ВКЛ быў апублікаваны ў 1566 годзе. Аднак пасьля яго прыняцьця кадыфікацыйныя працы ня спыняліся. Ужо на Берасьцейскім сойме таго самага 1566 году паправілі некалькі артыкулаў. Праз два гады Гародзенскі сойм унёс папраўкі ў некаторыя артыкулы і стварыў камісію для апрацоўкі Статуту. Камісія для паправак Статуту была выбраная і Люблінскім соймам 1569 году. Крыніцамі для апрацоўкі Статуту 1588 году былі: статуты 1529 і 1566 гадоў, соймавыя пастановы 1573, 1578, 1580 і 1584 гадоў, каралеўскія прывілеі, пастановы павятовых соймікаў. Да канца 1584 году праца над Статутам была закончаная, але ў сувязі з тым, што новы кодэкс ігнараваў акт Люблінскай вуніі 1569 году, Польшча не дапускала яго зацьверджаньня на агульным сойме Рэчы Паспалітай. Каб захаваць вялікакняскі трон, Жыгімонт ІІІ зацьвердзіў Статут сваім прывілеем 28-га студзеня 1588 году.

Статут 1588 году меў 14 разьдзелаў і 487 артыкулаў. Ён юрыдычна замацаваў тыя фактычныя адносіны, якія склаліся паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай пасьля 1569 году, але абавязваў урад вярнуць адлучаныя ад Княства землі, забараніў назначаць на дзяржаўныя пасады й надзяляць зямлёй "чужаземцаў і заграпічнікаў", захаваў адасобленасьць дзяржаўных установаў, арміі, заканадаўства, эканомікі й фінансаў.

Як адзначае прафэсар Іван Лапа ў сваёй двухтомнай працы "Літоўскі Статут 1588 году", выдадзенай у Каўнасе ў 1934-38 гадох, "Трэці Статут сьцьвярджае Вялікае Княства Літоўскае ў значэньні самастойнае і раўнапраўнае дзяржавы. Гэтая дзяржава валодае сваёй тэрыторыяй, непранікальнай паводле ейных асноўных законаў для ўлады якой-небудзь іншай дзяржавы і мае сваё падпарадкаваньне ейнай урадавай уладзе і законам насельніцтва. Люблінскую вунію, — кажа прафэсар

Лапа, — укладальнікі Трэцяга Статуту не прызнавалі за акт, што канчаткова й назаўсёды вызначыў долю дзяржавы Літвы (тэрмін "Літва" ўжыты тут у гістарычным, а ня сучасным значэньні) у ейнай фэдэрацыі з польскай Каронай. Укладальнікі Статуту апрацавалі артыкулы кодэксу так, каб яны маглі захаваць свой зьмест і моц як пры вуніі ВКЛ з Польшчай, гэтак і ў выпадку разбурэньня гэтай вуніі, думка пра што існавала гадамі ўкладаньня Трэцяга Статуту. Ігнараваньне вуніі 1569 году кодэксам законаў ВКЛ,. — падсумоўвае прафэсар Іван Лапа, — паказвае тое, што гэтая вунія ня была ўспрынятая Вялікім Княствам Літоўскім у значэньні арганічнай часткі ягоных асноўных законаў. Статут і акт вуніі мелі значэньне зусім рознае і прырода іхная прадстаўлялася неаднолькава. Першы быў кодэксам законаў дзяржавы Літвы. Другі, г. зн. акт Люблінскай вуніі, быў дакумэнтам міжнароднага характару".

Гэтыя цьверджаньні прафэсара Лапы поўнасьцю запярэчваюць погляд, пашыраны ў замежнай літаратуры, у тым ліку і ў літаратуры нашых суседзяў, што вунія ВКЛ з Польшчай нібыта азначала ўключэньне гэтага Княства ў склад польскае дзяржавы й страту ім усякай самастойнасьці, пра поўнае быццам-бы падпарадкаваньне ВКЛ Польшчы пасьля Люблінскай вуніі 1569 году і Берасьцейскай царкоўнай вуніі 1596 году.

Статут ВКЛ 1588 г., скасаваны 150 год таму маскоўскім царом Мікалаем І-м, быў надрукаваны, як і большасьць тагачасных юрыдычных актаў, на беларускай мове, — дзяржаўнай мове Княства, у віленскай друкарні Мамонічаў пад наглядам падканцлера Льва Сапегі, які быў, разам з канцлерам Астапам Валовічам, і адным з галоўных ягоных аўтараў, і які ў сваёй прадмове да яго зьвяртаў асаблівую ўвагу на родную мову. Леў Сапега пісаў: "А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу того нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем".

У 1614 годзе Статут 1588 году быў выданы й на польскай мове, а ў 1811 годзе на польскай і расейскай. У канцы XVI ст. III Статут Вялікага Княства Літоўскага быў выкарыстаны пры кадыфікацыі прускага права. Многія ягоныя артыкулы перайшлі ў маскоўскае Саборнае ўладжаньне 1649 году. У XVII ст. ён быў перакладзены на нямецкую мову і ўжываўся ў судах Латвіі і Эстоніі. У заканадаўстве Польшчы ён стаў дапаможнай крыніцай права. У 1735-38 гадох Статут быў перакладзены на ўкраінскую мову й быў асноўнай крыніцай права на Украіне.

Статут 1588 году, скасаваны 150 год назад, — выдатны помнік старажытнай беларускай мовы і юрыдычнай думкі пазьнейшай сярэднявяковай эпохі, адзіны збор законаў XVI ст. у Эўропе. Пра гэта павінен ведаць кажны Беларус і асабліва маладое пакаленьне беларускага народу.

*Язэп Барэйка*

## *ПА ТАКІХ ДАЎНО ВІСЕЛЬНЯ ПЛАЧА*

*Сорак чатыры гады пасьля канца вайны, пасьля настойлівых стараньняў жыдоўскіх дзейнікаў, у Канадзе ўвялі новае права, на аснове якога пачалі судзіць ваенных злачынцаў, якія памагалі гітлераўскім* **обэрмэншам** *вынішчаць паняволеныя народы, пераважна Жыдоў. Сёлета ў лютым пачалі судзіць двух чалавек: аднаго вугорскага, а другога славацкага паходжаньня. Іншы, Паляк, мае таксама сёлета стануць перад судом. Людзі гэтыя ў веку блізкія васьмідзясяткі.*

*На іхняе,быццам, злачынства няма даўнасьці... Судовы працэс ідзе ў краіне, дзе права адзінкі ёсьць поўнасьцю гарантаваным, незалежна ад права гурту ці якой-небудзь палітычнае партыі.*

*Чытаючы пра судовыя працэсы гэтых нібыта-злачынцаў, назаляе думка пра іншую сыстэму, што вынішчыла куды больш нявінных людзей чымся гітлераўская. І там, няважна ці ёсьць галоснасьць або перабудова, - хоць тысячы Курапатаў і міліёны нявінна-закатаваных па цэлым неабсяжным ГУЛАГу клічуць на помсту,— да гэтага часу ня было і, відаць, ня будзе ніякіх судоў над злачынцамі. А ці яны яшчэ сяньня жывуць? Але. Сяргей Грахоўскі ў сваім выдатным вершы назваў іх "ціхімі пэнсіянерамі". І жывецца ім, відаць, нядрэнна. Больш таго: некаторыя навет і афішуюцца тым, што душылі, стралялі... Пра аднаго такога йдзе рэч у артыкуле п.заг. "Камуніст ці проста член партыі" ("Беларусь", нр. 12, 1989). Аўтар артыкулу Вячаслаў Дубінка дасьледуе пытаньне: чаму камуністычная партыя "страчвае свой уплыў у народных масах" ды чаму людзі масава пакідаюць гэты быўшы "авангард" што даўно вырашыў быў усе сацыяльныя праблемы ды вось на працягу сямі дзясяткаў гадоў вёў усіх у "сьветлую будучыню". Аказваецца, сумленныя людзі масава пакідаюць антынародную партыю, бо пазналі ейнае запраўднае аблічча. Але ёсьць і такія, што выбываюць з партыі на ўласнае жаданьне зь іншых прычынаў. Пра двух такіх і піша Дубінка.*

Пачынае скардзіцца на яго сакратар партыйнай арганізацыі пры домакіраўніцтве нр. 3 гораду Бабруйска Іван Дзянісавіч Літвіненка: — Сядзеў адзін такі вось тут тыдзень таму. Хаваючы вочы, тлумачыў, зь якой-жа прычыны не жадае ўжо "состоять" у членах, як ён выказаўся. Прыгожвыя словы шукаў. Расходзіцца яго "плятформа" з той, якую партыя намеціла. Я-ж цябе наскрозь бачу. Што ты мне ваду на калёсы ліеш. Глядзі мне ў вочы! Атрымаў усё, да чаго імкнуўся. Навошта пнуцца. Пажыць на пэньсіі хочаш спакойна й бястурботна. У гэтага падпалкоўніка немалая пэнсія, новую кватэру выбіў, дый якую! У самым цэнтры гораду, у прэстыжным "генэральскім" доме, палепшанага плянаваньня. Ледзь ня зубамі ірваў, да камандуючага шмат разоў езьдзіў, — давай кватэру! Бачыш, горлам браў: маўляў, я — камуніст, баявы афіцэр, маю права! Такія гарлапаны свайго ня ўпусьцяць... У акадэмію рашуча лез, бесцырымонна ўсіх расштурхоўваючы... Чакаў-жа, ліхадзей, калі свае дзьвесьце пяцьдзесят пэньсіі атрымае, дый ордэр на кватэру ў дадатак, тады ўжо можна й кінуць партбілет на сукно, — не патрэбны.

*У параўнаньні з гэтым падпалкоўнікам, куды большым злачынцам выглядае іншы, да якога накіраваўся Дубінка.*

З нявыказанай трывогай я іду да аднаго з тых, хто нагадвае пра сябе: "Я жывы, я ёсьць! Наш браняпоезд стаіць... на запасных пуцях".

— Ён не захоча з вамі гаварыць, — папярэдзілі мяне ў гаркаме. — А як даведаецца, што вы карэспандэнт са сталіцы, дык сабаку з ланцужка спусьціць — трымайцеся! Гадоў колькі таму па дзецях страляў... Па ягады да яго наважыліся... Дзякуй Богу, абыйшлося без ахвяраў.

Ладны дамок бачны здалёку. Ашаляваны, пад шыферам. Шчыльная агароджа з калючым дротам у тры рады. Нешта насьцярожанае, пагрозьлівае адчувалася тут у гэтым завулку. На брамцы быў намаляваны сабака з пагрозьлівай пысай, а за агароджай чуўся яго злосны брэх. Доўга я грукацеў у акаваныя мэталічнымі палоскамі дубовыя дзьверы. Нарэшце, азваўся гаспадар, прыадчыніў дзьверы. Нёголены твар, шэрыя вочы падазрона ўставіліся на мяне. У руках дзяцюк трымаў даволі адчувальную сукаватку. Не пасьпеў я і павітацца, растлумачыць, што й да чаго, як ён рашуча адрэзаў:

— На кватэру не бяру! Сала на продаж ня маю, да халадоў яшчэ далёка. Кветкі прадаў, а новыя будуць праз тыдзень. Магу прапанаваць хіба мочаны яблычак... Пра самагон ня пытайцеся, барані Божа, цяпер з гэтым дзелам гамон!

Я крыху разгубіўся, ня ведаючы, пра што зь ім гаварыць.

— Дый у мяне такая справа, — пачаў я асьцярожна, не адкрываць-жа сваіх намераў, — параіцца з вамі хачу, добрыя людзі накіравалі да вас. У маіх бацькоў дом на Бахарава, хачу прадаць, а іх да сябе, у Менск, забраць. Толькі не ведаю, як быць. Параілі да вас завітаць, у вас сувязі, набітае вока, вопыт. Хвалілі, што дужа гаспадарлівы, такіх пашукаць трэба. Гультаёў-жа ў Бабруйску хапае. Курку й тую лянуюцца гадаваць. А ў вас і кабанчыкі ёсьць, і авечкі...

— Дзесяць вяпручкоў гадую, — задаволена паведаміў гаспадар, палагаднеўшы. — Заходзьце, — запрасіў ён, — я сваім мазалём бяру, стараюся.

Па няўлоўнаму знаку гаспадара да яго ног кінуўся ваўкарэз чорна-бліскучага колеру. Гаспадар пагладзіў яго і сабака паслухмяна лёг якраз каля ўваходу ў двор.

"Гэта-ж ён мяне папярэдзіў, што бегчы назад няма куды, — гаспадар паклапаціўся, — менавіта так я зразумеў гэты манэўр, — абачлівы, бачыш".

Папярэджвалі мяне перад тым, як адпусьціць да яго на гасьціны: — Сабака ў яго, што зьвер — асьцярожна! У яго-ж дом, што крэпасьць. У склепе загатаваныя дзясяткі бочак. І капусту засольвае, і яблычак, і часнок. Гадуе штогод больш за дванаццаць кабанчыкаў, суткамі на кірмашы сядзіць. Прадае і семачкі, і таматы, і кветкі, і сала, — гаспадарлівы. А з суседзямі не кантактуе, абложная вайна каторы год, баяцца яго...

Уладальнік гэтага маёнтку "за пяцьдзесят тысяч" некалькі месяцаў таму, надзеўшы вайсковую форму сяржанта ўнутраных войск, пераступіў парог кабінету сакратара райкама, кінуў білет на стол са словамі:

— Я за Сталіна гатовы хоць заўтра контрыкаў страляць! Мне-б толькі аўтамат, а рука не задрыжыць, так і ведайце! Мала мы іх білі гэтых самых... Нефармалаў напладзілі! Франты прыбалтыйскія паадкрывалі... А дзе-ж салдат з аўтаматам? Праспалі сацыялізм? Мы яго будавалі, крыві не шкадуючы, а вы? Паслухайце, што я вам скажу. Навошта партыя гнюсіць на вялікага Сталіна? Не жадаю быць у вашай партыі!..

— Ён быў начальнікам аховы канцэнтрацыйнага лягеру ў Кемераўскай вобласьці ў канцы пяцідзесятых, старшы сяржант. Пасьля службы два сэзоны іграў у футбольнай камандзе вышэйшай лігі "Беларусь", аматары футболу памятаюць гэтую каманду! Літасьці і на футбольным полі ня ведаў: біў па нагах — спартсмэны доўга падняцца не маглі... Праўда, футбалісты ня ведалі, з кім яны забівалі галы ў вароты сапернікаў, а як даведаліся, дык заявілі рашуча: "Ці гэты злыдзень, ці мы!" Злыдзень хуценька зьехаў са сталіцы, асеў на пэрыфэрыі і, як бачым, урос надта капітальна.

Першае, што кінулася мне ў вочы, калі я пераступіў парог ягонага прасторнага дому, быў вялікі партрэт Сталіна. На ўвесьт рост, са знакамітай трубкай у руках. Ён "дбайна", "прыязна" ўсьміхаецца, а за сьпіной у "бацькі" Крэмль. А побач з партрэтам "правадыра" прымацаванае фота куды меншых памераў. Зірніце, які арол у белым, ледзь не "генэральскім" паўкажушку, на грудзіне байца аўтамат. З боку выглядвае афіцэрская пляншэтка. Пазірае ў аб'ектыў неяк з выклікам,дзёрзка.

— Хто гэты бравы прыгажун? — наўмысна пытаюся я, загадзя ведаючы, хто красуецца на размаляваным анілінам фотаздымку.

— Фотка, што трэба, — з асалодай прагаварыў гаспадар. — Масковец адзін рабіў, у былым фотакарэспандэнт, гудзеў таксама па пяцьдзесят восьмай... Дзе мае дваццаць... І паўкажушак шылі, і боты, ублюдкі, ворагі народу. Ух, ня ведалі яны ад мяне літасьці. Партыя ведала, на каго можна абаперціся... Я годна нёс сваю службу. Народ выконваў сталінскія пяцігодкі, а ворагі былі пад надзейнай аховай...

Ён крыху памаўчаў,уважліва зірнуў на мяне і прапанаваў: — Давай па наркомаўскай? Па кроплі... і я табе такое раскажу...

Ішла другая гадзіна майго гасьцяваньня. Гаспадар натхніў сябе каньяком "тры бульбачкі" — самагонкай і гаварыў, гаварыў... Пазбаў мяне, божа, ад такога натхняльнага апавядальніка. Ад тых "эпапей", у якіх ён браў удзел, мне ня было спакою некалькі тыдняў пасьля сустрэчы, няма й цяпер.

— Не, ты толькі слухай, я сёньня добры! Я нікога не баюся! Чуеш? І іхняй перабудовы не баюся! І нічога ў іх не атрымаецца! Трэба ваеннае становішча аб'явіць, на лесапавал усіх гэтых нефармалаў... Крок сюды, крок туды — кулю ў лоб! Разгаворчыкі...

Я сьцяўшыся слухаў, ня верачы сваім вушам. Яму-ж толькі было за дваццаць і такія "подзьвігі". І столькі гадоў яны "натхнялі" яго, бачыш, як пахваляецца.

— Слухай яшчэ гісторыю і не перабівай, — ён хапаў мяне за кашулю і, пырскаючы сьлінай, п'янавата ўсьміхаўся, гаварыў: — Контрыкі, басата, свалата варожая, чорнае дзела надумалі. Бунт, панімиаеш! Паўстаньне, уцёкі. Сабакі, паўгоду рыхтавалі дзень чорны. Абрамоты, каго абхітрыць хочаце? Наш чалавек - "стукач" данёс, усё да кропачкі расказаў, як, калі, колькі. А што надумалі, паслухай! Лес падпаляць. Тойсамы, дзелавы, які паўгода тралявалі. Кубоў тысяч дзесяць з гакам — цёмна ад таго лесу было вакол лягеру. Ага, падрыхтуемся й мы... Свалата сваё, а мы — сваё. Падцягнулі падмацаваньне, цяжкія танкавыя станкачы-кулямёты атрымалі, паставілі там, дзе трэба... Два тыдні чакалі... І дачакаліся. Дым, агонь да неба, добра гарэлі сухія бярвеньні — люба глядзець. Свалата па рацэ і пайшла... Увесь лягер, пяцьсоцень. А мы іх кулямётным агнём сустрэлі! Папрацавалі добра, рака стала чырвонай ад крыві, амаль усіх ворагаў і палажылі... Ня было каму й хаваць, так у рацэ й засталіся, рыбкам на ласунак... Праз тыдзень я новы атрад, па пяцьдзесят восьмай, прыгнаў зь Кемерава... Выгрузілі з вагонаў і па марозе ў лягер... Ад камандзіра гадзіньнік атрымаў за службу... І дваццаць банак тушонкі...

Мне стала горача. А ён працягваў расказваць. І пра сваіх кабаноў, і пра два набытыя легкавікі ў гаражы, і пра тое, як хмяліў гасьцей на вясельлі дачкі... Каб-жа ведалі людзі, як ён ня церпіць гэтых нефармалаў. Трэба тэрмінова аўтаматы выдаць усім надзейным людзям. Пара, нарэшце, канчаць з гэтай дэмакратыяй і галоснасьцю, новага "бацьку" гукаць трэба. Усім гаварунам вяроўку на шыю накінуць — намітынгаваліся.

Бачыце, гэты адкрыта, не хаваючыся, выклаў сваю "платформу" й прычыны выхаду з партыі, хаця й гэты жэст растлумачыць цяжка. Няўжо верыць, што перабудова захліпнецца і ён першы пабяжыць за сваім кінутым партбілетам. Маўляў, я так пратэставаў супраць ненавіснай яму перабудовы...

*Калі ўзяць пад увагу, што такіх, як гэтая пачвара - сталінскі экстэрмінатар, ёсьць у паняволенай Беларусі вялікая колькасьць, няцяжка зразумець цярністы шлях дэмакратызацыі грамадзтва й усёй ненавіснай эсэсэраўскай імпэрыі, якая, — няма ў гэтым сумлеву — распадаецца. Адзін са шляхоў паправы — вяртаньне жыцьцядайнай веры ў Бога. Разам зь ёю мацнее маральны арганізм, што прынясе любоў, міласэрнасьць, адновіць людзкую і нацыянальную годнасьць, прыспорыць матар'яльнага дабрабыту. Каб у краіне - як казала паэтка Арсеньнева, "ціхай і ветлай", - пасьля не аднаго галакосту на працягу стагодзьдзяў, запанаваў, на славу людзём і Богу, мір і дабрабыт.*

## ЯК РУЙНУЕЦЦА ПЛЯНЭТА

*Усяму сьвету ведамая катастрофа Чарнобыля навісла сьмяротнай пагрозай над нашай бацькаўшчынай, сумежнымі раёнамі Украіны й Расеі. А зьнішчэньне незаменных рэсурсаў прыроды, што йдзе хуткім тэмпам па ўсёй нашай плянэце, прадстаўляе ня меншую пагрозу для ўсіх яе жыхароў.*

*У сваёй калядной прамове каралева Брытанскай Супольнасьці Народаў заклікала ўсіх спыніць пагражаючую катастрофу. Гэтта зьмяшчаем артыкул з таронцкай газэты, які, мяркуем, павінен зацікавіць нашых чытачоў.*

*Рэдакцыя*

За 28 гадоў амэрыканская праграма асваеньня космасу сабрала надзвычайна трывожныя фатаграфічныя доказы таго, як нашая плянэта руйнуецца забруджаньнем. Калішні дараднік асваеньня космасу (НАСА) Дык Андэрвуд кагадзе даў паўтарагадзінную лекцыю на ўнівэрсытэце ў Ўотэрлу (Антарыё). Даклад гэны проста ашаломіў прысутных акадэмікаў, бізнэсмэнаў, студэнтаў і журналістаў. Пасьля

дакладу Андэрвуда слухачы сядзелі некалькі часінаў, быццам мову ім зняяло, а пасьля ўзнагародзілі дакладчыка, устаўшы з воплескамі.

Добра было-б кажнаму з нас паглядзець Андэрвудавы слайды. Андэрвуд, калішні вайсковец, цяпер у адстаўцы, падчас сваей працы забясьпечваў амэрыканскія ракеты й сатэліты фатаграфічнымі камэрамі. На працягу гадоў ён працаваў у НАСА з астранаўтамі, навучаў іх як рабіць здымкі на стратэгічных месцах іхных падарожжаў.

Вынікам ягоных стараньняў ёсьць паўтара мільёна здымкаў у архівах НАСА — трывожны доказ занядбаньня й катастрофы нашае плянэты. Умела абхітрыўшы непаваротлівых бюракратаў, Андэрвуд дбаў пра тое, каб на працягу 28 гадоў камэры былі на бартох касмічных караблёў. Сваёй працай ён больш чым хто іншы спрычыніўся да таго, каб затрымаць зьнішчэньне прыроды.

— Пакуль чалавек зможа пабудаваць штучныя плянэты ці некуды перабрацца, нам патрэбна захаваць нашу зямлю, — пачаў дакладчык. А пасьля ён дэманстраваў прычыны гэтага. Ягоныя слайды былі ашаламляльным доказам наступу афрыканскіх пустыняў, на якіх дзюны вырастаюць да вышыні 2000 футаў.

Зьнішчэньне Афрыкі мае свае зародкі ў так званых якасьцях рэлігіі некаторых плямёнаў, што жывёлу лічаць меркай свайго жыцьця і формай валюты. У выніку гэтыя вандроўнікі дазваляюць свайму статку зьядаць кажную травінку й лісьцінку ў наваколльлі. Пасьля-ж племя пераносіцца далей і зьнішчае іншы раён.

Зьнішчэньне расьлінаў адкрывае вольны шлях пустыні, якая, бязь ніякіх перашкодаў вятрамі пераносіць верхнюю глебу. Гэткім чынам пыл і глеба з навакольных пустыняў пакрывае вялікія прасторы й перашкаджае стварэньню дажджавых хмараў.

— Мы назіралі наступ пустыні часам на 5 а часам на 100 міляў адлегласьці ў год. Каля 250 мільёнаў людзей загіне падчас першае вялікае засухі спрычыненай чалавекам, што зьнішчае Афрыку, — казаў Андэрвуд.

Слайды паказваюць Афрыку напоўзаслоненую быццам хмарамі. Андэрвуд запэўнівае, што гэта пыл. — Афрыканскі пыл цяпер засьціць паўмільёна квадратных міляў, або адну сёмую вялічыні Канады. Ён пераносіцца й праз Ціхі акіян. — У Юстане я пазіраю на пакрыўку свайго аўта і разважаю зь якой афрыканскай краіны прынясло гэны пыл, — казаў Андэрвуд.

Далейшыя доказы: Астранаўт Франк Борман у пачатку сямідзясятых гадоў зрабіў здымку возера Чад, паверхня якога была 10 тысяч квадратных міляў — крыху большая чымся возера Антарыё. На пазьнейшым слайдзе вы ня знойдзеце возера Чад, яго пакрыла пустыня. Таксама душыцца слаўная рака Убангі, тая хуткабежная цеч белае вады, вялікіх і небясьпечных нуртоў і п'явак, што зьявіліся драматычнай сцэнаю для слаўнага галівудзкага фільму *Афрыканская Каралева*. — Такі фільм цяпер немагчыма было-б там зрабіць, — кажа Ундэрвуд, — Убангі ператварылася ў ручай...

Слайды таксама сьветчаць як шкоднымі ёсьць таксама мадэрныя гаспадаркі. Перад намі паўдзённая пустыня Лібіі і гіганцкія зялёныя лапіклы, што зьяўляюцца палямі альфа-альфа, засеянымі навокал вялікіх уладжаньняў, якія выцягваюць ваду з антычных глыбокіх падзямельных сховішчаў.

— Гэнай вадзе 25 мільёнаў гадоў і яе ніколі не заменіш. Гэта ёсьць гіганцкім здабываньнем вады за тыя грошы, што прыйшлі за продаж нафты. Выцягваньне вады й яе выпарваньне спрычыняецца да паніжэньня вадзяной плошчы ў іншых раёнах ды змушае людзей пакідаць зямлю, перабірацца ў перанаселеныя гарады, бо яны ня могуць дабрацца да глыбокай вады. А на альфе-альфе пасуцца авечкі, якіх пасьля вязуць у бойні ў Трыполі. Больш танна было-б купляць бараніну ў Югаславіі.

Найбольшае стварэньне чалавека на зямлі, ягіпецкая Асванская запруда на рацэ Ніль, таксама спрычыняе экалягічныя праблемы. Некалі рака напаўняла слаўную дэльту кажны год, навадняючы прастор і пакідаючы ззаду глей ды іншую пажыву. Паколькі цяпер няма паводак, патрабуюцца хімічныя ўгнаеньні і палова энэргіі Асванскае запруды траціцца на іх прадукцыю. — Возера ў Асване таксама высыхае, — кажа Андэрвуд.

Хоць Афрыка дае нам найлепшы прыклад зьнішчэньня прыроды, Андэрвуд паказвае нам слайд п. заг. "Сьвет у агні". Гэта Паўдзённая Амэрыка пакрытая быццам вялізнымі цёмнымі хмарамі. Гэта ёсьць дым. — "Сячы й палі" ёсьць старой гішпанскай традыцыяй, калі высякалі лясы і тут вы бачыце адзін мільён квадратных міляў такога густога дыму над Бразыліяй, што зусім ня відаць гэтай краіны. Гэта — адна трэцяя вялічыні Канады і таго дыму нават ня было, знодна нашых здымкаў 15 гадоў назад, — кажа Андэрвуд.

Але ня толькі трэці сьвет зьяўляецца злачынцам. — Вось дзе той вялікі зялёны клубок. Гэта Лёс Анджэлес, 10 тыс. квадратных міляў забруджанага паветра. А тут во Масква і Ў сходні Блёк, што забруджаны цэлы час.

А пасьля Андэрвуд паказвае вялікі цёмны кавалак Атлянтычнага акіяну пры спалучэньні зь Міжземным морам. Забруджаньне акіяну спрычынена выкіданьнем адходаў алівы й бінзіны з караблёў. — Тут за тры тыдні выліваюць у акіян больш нафтавых адкідаў чымся было выліта у катастрофе Валдэз у Алясцы, — паясьняе Андэрвуд.

Дакладчык пражывае ў Юстан, Тэксасе, езьдзіць па цэлым сьвеце. Гэта яго пэрсанальная місія, каб вытлумачыць сьвету што цяпер дзеецца. У ягонай бібліятэцы 98 тысяч слайдаў, зробленых са здымкаў астранаўтаў — найбольш канкрэтны доказ зьнішчэньня прыроды, што пагражае жыцьцю плянэты. Абкружаны людзьмі пасьля дакладу, ён скзаў мне: — Гэта гісторыя, і ніхто ня слухае.

Diane Francis, Toronto Sun, Oct. 1, 1989

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — НЯ »ИГРУШКА«

У беластоцкай "Ніве", за 13.5. 1990 ёсьць быццам рэцэнзія на Мартыненкаву й Мяльгуёву кнігу "Праз рок-прызму", што летась выдаў БІНІМ зь Ню Ёрку. Аўтар зь "Нівы" перадае прадмову д-ра Янкі Запрудніка. І вось чытаем такое: "...тэматычны дыяпазон кнігі ладна шырэйшы за абмяркоўваемы ў ёй жанр..."

У Запруднікавай прадмове няма слова **»абмяркоўваемы«**, а ёсьць *беларускае* **»абмяркоўваны«. Пытаньне да У. Панады зь »Нівы«: Ці табе няведама, што цытаты павінны быць згодныя з арыгіналам? А што на гэта рэдактар газэты?**

**Калі вы,** *Паважаныя Сyродзічы,* , пасьля розных спраў, маскоўскім акупацыйным рэжымам **вылучаемых, рэалізуемых, прапаноўваемых і абмяркоўваемых,** пачнеце пісаць нескалечанай акупантамі беларускай мовай? Ці можа чакаеце, пакуль вас *забавяжуць*, вам *укажуць?*

*гер... гер... гер... манія...*

У тэй-жа "Ніве" за 27 травеня і 3 чэрвеня ёсьць артыкул "Аб'яднаная Германія". У нашай мове ёсьць беларускае слова "Нямеччына". Але магчыма прафэсар баіцца, што калі перастане ўжываць "Германію" дык "старшы брат" яму аглобляй па сьпіне трахне. А магчыма, што прафэсар ня можа пазбыцца маніі пра "гірманію"...

## ПРАГРЭС ПАЛЯНІЗАЦЫІ

Выдаваны ў Ватыкане бюлетэнь "Хрысьціянскія Навіны", у н-ры 5(21) піша, што: "...каталіцкі часапіс '30 джорні' піша, што каталікоў на Беларусі **каля 2,5 мільёнаў** і зварот Менскай Катэдры прадбачаны на 1991 год прадстаўляе вялікую праблему. Католікі на Беларусі ўжо атрымалі ад уладаў два дазволы. Папершае, што могуць атрымліваць часовую 'падтрымку' 50 сьвятароў, якія прыбудуць з Польшчы. Усе яны будуць мусілі добра ведаць беларускую або рускую мову. Падругое, што сьвятары адноўляць быўшы Манастыр Бэрнардынцаў у Гародні, пераменены ў клініку ды зробяць зь яго сэмінар."

Выступаючы на Х-м Зьезьдзе Пісьменьнікаў Беларусі ў Менску, Адам Мальдзіс сказаў: "Як пісьменьніка мяне трывожыць, што няма ў рэспубліцы, у кіруючых колах сур'ёзнага настрою выконваць прыняты закон аб мовах, лячыцца ад нацыянальнага нігілізму. Ранейшая хваля русіфікацыі пачынае дапаўняцца магутнай хваляй палянізацыі. Усе католікі, а іх, па падліках Ватыкану, у Беларусі прыкладна два мільёны, абвяшчаюцца Палякамі. У адрозьненьне ад праваслаўнай царквы, каталіцкі касьцёл — за двума выключэньнямі — не жадае пàварочвацца да беларускавй мовы. Замест таго, каб адкрыць, па прыкладу праваслаўнай, сваю каталіцкую сэмінарыю, мы працягваем 'імпарт' ксяндзоў з Польшчы. Хутка ў Менску будуць тры польскія касьцёлы, і ніводнага — беларускага. Многія з нашых кіраўнікоў з задаваленьнем разыгрываюць любую карту, польскую, каталіцкую ці нават літоўскую — абы толькі не беларускую".

## ЦЫТАТЫ

"У чым прычына той мэханічнай, няўмольнай упартасьці, зь якой 'сталёвы', а цяпер і 'атамны' бог абрушваецца на 'жытняга' бога, бога стваральнага й жыцьцядайнага? Мабыць, вытокі драмы беларускага народу-сейбіта ў спрадвечнай, біблейскай безабароннасьці ўсяго, што нясе жыцьцё, перад усім, што нясе сьмерць, безабароннасьці стварэньня перад разбурэньнем, дабра перад злом. Жыцьцё ня можа зьнішчыць сьмерці, таму што жыцьцё ня зьнішчае, яно перамагае тым, што стварае, жыве, узнаўляецца, як і дабро ня можа забіць зла, не ператварыўшыся ў яго, бо дабро не забівае, яно перамагае — любоўю і дабром. Біблейскія абстрактна-гуманістычныя ісьціны? Але толькі ў іх — запарука выжываньня чалавецтва і нашага народу, які першым аказаўся 'на роковой очереди'. І страшней за ўсё, калі "скошанай" акажацца нацыянальная ідэя, якая супадае з агульначалавечай — вера ў сяўбу, у 'праўду зерня', якая так доўга нішчылася, ганьбавалася, што невядома ці акрыяе, ці зарунее зараз..."

*Тамара Чабан, "Мара пра эпас", "Полымя", нр. ", 1990*

## »НЕПАХАВАНЫЯ АСТАНКІ ДЗЯСЯТКАЎ ТЫСЯЧ САЛДАТ«

"Сувораў сказаў, што вайна ня можа лічыцца скончанай, пакуль ня будзе пахаваны апошні забіты салдат. А што ў нас? Прайшло пасьля разгрому фашысцкай Германіі сорак пяць гадоў, а на былых палях бітваў, скажам, як паведамлялі газэты й тэлебачаньне, на Пскоўшчыне, дзе вяла цяжкія баі другая ўдарная армія, дагэтуль у лясох, у балотах ляжаць непахаванымі астанкі дзясяткаў тысяч салдат. Гэтымі днямі з тэлепраграмы "Взгляд" мы даведаліся, што непахаваных астанкаў загінуўшых салдат шмат нават у Падмаскоўі. Што гэта такое робіцца? Што-ж мы за людзі? Што-ж мы за грамадзтва?"

*"Памяць вайны, праўда пра вайну", "ЛіМ", 25.5.1990*

*Чытаючы пра непахаваныя астанкі салдатаў у балотах і лясох Пскоўшчыны, ці нават Падмаскоўя, карціць адказ на тыя тры апошнія пытаньні з гэтае газэтнае вытрымкі, што ўзятая з даўгога артыкулу, дзе журналіст Міхась Замскі з крытыкам Нічыпарам Пашкевічам разважаюць пра творы на тэму "айчыннай вайны" ў беларускай літаратуры.*

*Калі, відаць, скончылася тая "гэройская" вайна, ворганы сканцэнтравалі свае сілы на ліквідацыі магілаў розных курапатаў, у якіх яны пахавалі вымардаваныя мільёны нявінных "ворагаў народу".. Яны, тыя—ж ворганы, працягвалі папаўняць лягеры сьмерці мільёнамі чарговых ахвяраў. Абцяжаныя тонамі мэдаляў ваенныя "гэрої", што мелі ў сваіх руках сілу ідэялагічнае паганякі, наглядалі, каб "рабсілы" ў сацрэалістычнай літаратуры станавіліся "на вахту" вялікіх гістарычных здабыткаў, стваралі новыя міты пра "айца народаў" ці пасьля іншага, хоць і меншанькага славаю кукурузьніка. Дык на тых астанках салдатаў па лясох і балотах жыравалі ваўкі, а сотні тысячаў гаротных матак ці сіротаў ня ведалі дзе падзеліся іхныя сынкі, бацькі ці браты. Варварская сыстэма стварыла варварскія адносіны да людзей, а сыстэма тая, як вядома, нарадзілася ў галовах вялікіх нікчэмнікаў — Леніна і ягоных памочнікаў. Калі ўжо ставіце тыя галоўныя пытаньні, дык чаго-ж пакідаеце іх без адказаў, або абмяжоўваецеся намёкамі? Калі-ж вы, паважаныя журналісты й крытыкі, адвагі ўжо даволі набярэцеся, каб ставіць такія патрэбныя "кропкі над і"?*

*Тут-жа вось з такога, прыгаданага цяпер, прост-напраст будзённага факту жыцьця гэтай маскоўскай варварскай сыстэмы проста лезе й просіцца ў мастацкую літаратуру ой як балючая-набалелая тэма! Дый не адна! Спадзявацца трэба, што час народзіць яшчэ таленты (а мо яны і ўжо нарадзіліся ды падрастаюць) каторыя пойдуць сьмела ў гэтую, цяпер яшчэ трыманую бальшавіцкімі злыднямі пад сваей аховай "зону маўчаньня". Нераскрытыя ў "айчыннай" літаратуры яшчэ пачварныя "саўдзельнікі ў злачынствах". Адным словам, тут дзярно-цаліна...*

## *КОЛЬКІ АХВЯРАЎ І КОЛЬКІ ХЛУСЬНІ?*

У артыкуле "Памяць вайны, памяць пра вайну", ("ЛіМ, 25.5.1990) журналіст М.Замскі адчыняе гутарку з крытыкам Н.Пашкевічам вось такім уступам: "Рыхтуючыся да гутаркі з вамі, Нічыпар Еўдакімавіч, я падумаў, што пяць, тым больш дзесяць гадоў назад мае пытаньні вам мелі-б, відаць, іншы характар. Хвальш, многа нашых уяўленьняў аб вайне выйшла на паверхню ў перабудовачныя гады з апублікаваньнем схованых раней ад людзкога вока дакументаў, якія пралілі сьвятло праўды і на даваенны альянс Сталіна з Гітлерам, і на прычыны адступленьня Чырвонай Арміі, на сапраўдныя нашы людзкія і матар'яльныя страты. Пры ўсім гэраізьме нашых воінаў, на кожнага забітага на фронце немца прыпадала, аказваецца, тры забітыя савецкія салдаты. Паводле падлікаў некаторых нашых гісторыкаў, Савецкі Саюз страціў у час другой сусьветнай вайны ня 20 мільёнаў жыцьцяў, як гэта 'прынята' лічыць, а ці не ўдвая больш.

'А ўсё такі вайну мы выйгралі!' — гэтую, сказаную з выклікам фразу, можна і сёньня пачуць з вуснаў вэтэранаў (пераважна былых вайскоўцаў), абураных да глыбіні душы абвінавачваньнямі па адрасе Сталіна. Вядома-ж, 'выйгралі'. Але-ж не намаганьнямі крывавага тырана. Перамог народ, ахвяраваўшы мільёнамі лепшых сваіх сыноў і дачок."

Вось яны, **дакуманты...раней схаваныя... пралілі цяпер сьвятло праўды...за аднаго нямецкага салдата тры савецкія забітыя... і ня дваццаць мільёнаў ахвяраў, а ці ня два разы больш...**

Прыгадваюцца, ад часоў той "гэройскай, вялікай айчыннай" іншыя "сьвётлы праўды" удакумантаваныя рознымі пасьлядовічамі, прокшамі, раманоўскімі, бажкамі й іншымі палітрукамі ды кадэбэшніцкімі паўзунамі. Але што—ж. Лепш, кажуць, позна чымся ніколі. Магчыма гэткае, выкапанае ўжо "перабудовачнымі гадамі" сьвятло праўды прасьветліць нас больш чымся тое, замызганае партыйнымі гномамі ранейшае...

Аказваецца, калі сумленныя пісьменьнікі ці журналісты ад тых, — калі гэтта пазычыць ведамага загалоўку ў Лынькова,

— 'векапомных днёў' намагаліся выцягнуць які дакумант, што даў-бы нейкае 'сьвятло праўды', дык іх партыйныя граміла ня толькі па руках лупцавалі. Многа, аказваецца, прайшло гадоў, пакуль галоўныя маскоўскія злачынцы далі людзям нейкае абмежаванае права пісаць у пэўных дазволеных рамках пра "вялікую айчынную' ды пра ейны ого які "вялікі гэраізм" савецкі. Дык паслухаем далей Замскага й Пашкевіча:

М.З. — Чым усё-ж растлумачыць тое імкненьне афіцыйнай ідэялёгіі прыглушыць цікавасьць літаратуры да падзей вайны, штурхнуць яе па сутнасьці на бяспамятства?

Н.П. — Напэўна, жаданьнем як найпрасьцей мабілізаваць усе сілы народу на выкананьне надзённых эканамічных і палітычных задач, на 'пасьпяховае аднаўленьне і далейшае разьвіцьцё...' Працаваць, маўляў, трэба, а не аглядацца назад, не разьвярэджваць душы ні горкімі, ні гордымі ўспамінамі.

М.З. — Мне здаецца, былі тут і больш 'глыбінныя прычыны'. Відаць, партакратыя на чале з крамлёўскімі ўладарамі, як агню, баялася ўсёй праўды пра вайну, каб пад яе сьвятлом не разбурыліся многія афіцыйныя догмы і стэрэатыпы, зьвязаныя зь няпрыемнымі праблемамі вайнеы...

Н.П. — Магчыма, былі і такія патаемныя разьлікі. Літаратура адразу магла 'выдаць' многа непажаданага, хоць і стараліся хутчэй схаваць ад яе вока ў недаступныя архівы ўсё 'небясьпечнае'. У жывой памяці людзей многае такое жыло, што дай толькі волю... Возьмем такую-ж сітуацыю, што стварылася на нашай беларускай зямлі. Яна спарадзіла і найвялікшую трагэдыю народу, і выклікала да жыцьця бяспрыкладны яго гэраізм. Асэнсоўваючы ўсё, што адбывалася, можна разглядаць гэтую сітуацыю, як факт, як 'данасьць', ня ставячы лішніх пытаньняў. А можна і задумацца над тым, чаму яна ўзьнікла, у чым яе вытокі. І ці толькі захапленьне і гонар павінны выклікаць мужнасьць народу, масавы гэраізм простых людзей, старых і дзяцей? А ці нельга было пры нейкіх інакшых прадпасылках нашага даваеннага жыцьця пазьбегнуць гэтай трагічнай сітуацыі і гэтага 'звышнарматыўнага' гэраізму? Ды ці мала аспэктаў жыцьця народу ва ўмовах акупацыі, партызанскай і падпольнай барацьбы пры сумленным і праўдзівым іх асьвятленьні далі-б лішні клопат тагачасным ідэялягічным кіраўніком.

М.З. — Складнейшая матэрыя — праўда на вайне.

Па маім разуменьні, легэндарызацыя падзей вайны, ды і ня толькі вайны. пра якую вы гаворыце, як пра мастацкі мэтад, — прадукт нашай сыстэмы, якая дзесяцігодзьдзямі ўзводзіла ману ў прынцып. Мана, або, калі гаварыць больш далікатна, — жыцьцёвая няпраўда пакладзена ў аснову многіх нашых кніг пра вайну. Пры ўсёй маёй глыбокай павазе да клясыка беларускай літаратуры Міхася Лынькова менавіта як няпраўду я некалі ўспрыняў яго раман-эпапэю 'Векапомныя дні' зь яе, на мой погляд, спрацаванымі па старых лекарах героямі, якія неагадваюць расстаўленыя на шахматнай дошцы фігуры.

Н.П. — Дэфіцыт глыбокай, бескампраміснай праўды пра вайну наша літаратура пераадольвала і пераадольвае вельмі марудна. Дужа ўжо многа было ў нас і раманаў, і аповесьцяў, і апавяданьняў, пазбаўленых і сьмелага погляду, і таленту, павярхоўных, а то і проста фальшывых, абразьлівых для тых, хто зьведаў нягоды таго часу.

М.З. — Зьяўленьне кніг Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, некаторых іншых пісьменьнікаў, а крамя ўсяго, добра высьвеціла роэальную 'каштоўнасьць' гэтай прадукцыі.

Н.П. — Высьвеціла то высьвеціла, але і сёньня яшчэ ручай лубачнага 'сачыніцельства' на ваенную тэму, на жаль,. не перасыхае.

М.З. — Васіль Быкаў найбольш плённа і ўражальна распрацоўвае сітуацыі сутыкненьня чалавека і абставыін, сітуацыі выбару, калі душы і маральныя якасьці людзей раскрываюцца да канца.

Н.П. — Згодзен з вамі. Быкаў — гэта асаблівы талент мастака, філёзафа, бескампраміснага дасьледчыка чалавечай душы ў яе ўзаемадзеяньні зь неміласэрнымі жыцьцёвымі абставінамі.

## ПРА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВОЙСКА

Менская газэта "ЛіМ" за 6.7.90 зьмясьціла артыкул "Ці патрэбна нацыянальнае войска" — як "думку чытача" — ваеннаслужачага С. Гарбаўца, у якім ён выказваецца за ўтварэньне беларускіх нацыянальных вайсковых фармацыяў на тэрыторыі Беларусі. У заключэньні Гарбавец піша:

"Моцным сродкам узьдзеяньня на нацыянальныя пачуцьці, мне думаецца, зьявіцца сам факт існаваньня нацыянальнага войска, у сымбалях і назвах якога павінна ўвасабляцца гісторыя народу. Нацыянальнае войска можа стаць сымбалем нашае дзяржаўнасьці, сродкам аднаўленьня нацыянальнай годнасьці, школай сапраўды патрыятычнага выхаваньня. Але гэта ня значыць, што яно павінна мець нейкі дэкаратыўны, парадны характар. Нацыянальнае войска магло-б узяць на сябе частку задач Узброеных Сіл Саюза ў сваім рэгіёне."

## СПАЛІЛІ СТАРАДАЎНЮЮ СЬВЯТЫНЮ

Варшаўская газэта "Жэчпосполіта" за 14-15 ліпеня сёлета прыносіць такую вестку: »**Пажар манастыра ў Грабарцы. 12-га гэтага месяца згарэла старадаўняя, з XVII-га стагодзьдзя сьвятыня ў манастыры сьв. Марыі і Марты ў Грабарцы [Беластоцкае ваяводзтва].**

**Грабарка для праваслаўных ёсьць тым, чым Ясная Гара [у Чанстахове - »З.»] для каталікоў. Варта дабавіць, што ёсьць гэта шостая праваслаўная сьвятыня, якая згарэла на працягу апошніх пяці гадоў. Пачатковыя вынікі сьледзтва паказалі, што прычынай пажару быў падпал. Іск у гэтай справе вядуць: раённая пракуратура і каманда ваяводзкай пажарнай старожы.**»

У царкве ў Грабарцы былі 4 бясцэнныя іконы, залатая чаша і іншыя каштоўнасьці, а сама драўляная сьвятыня зьвязаная зь верай у цуд, што там Збавіцель зьявіўся некалі. Калі-ж у Беласточчыне падпалам злачынная рука зруйнавала ўжо шэсьць праваслаўных сьвятыняў, дзе маліліся нашыя суродзічы Беларусы, дык якія захады зрабіла царкоўная праваслаўная ярархія, каб адпаведныя дзейнікі дасьледавалі гэныя злачынствы падпалаў і прыцягнулі каго трэба да адказнасьці? Цікава, што зрабіў-бы "наймудрэйшы народ у сьвеце", калі-б нехта спаліў іхную скарб-сьвятыню на той Яснай Гары ў Чанстахове, або калі-б у Беласточчыне згарэла некалькі каталіцкіх касьцёлаў, дзе зь мясцовых Беларусаў гадуюць польскіх цівуноў і беларускіх рэнэгатаў...

## ФОНД »ЗВАЖАЙ»

Ад 10-га травеня да 20-га ліпеня ў касу прыйшло: Ч.Найдзюк — 5.70 дал., Я.Гавеньчык — 31.73, В. і З.Кіпель — 28.75, М.Раецкі — 24.90, Г.Шайпак — 16.60, Я.Запруднік — 23.00, Ф.Бартуль — 17.25, Рая Станкевіч — 5.75, А.Міцкевіч — 5.75, С. Гутырчык — 5.75, С.Гутырчык (з продажы) 64.40, К.Акула 20.00, К.Акула (з продажы) — 12.00.

*Разам — 261.58 дал. Усім вельмі дзякуем.*

## *А ХТО-Ж ТУТ ІДЗЕ?*

Над загалоўкам кажнай савецкай газэты фігураваў дэвіз: "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!"

Ад 1-га чырвеня менская "Літаратура і Мастацтва" зьмяніла той рэвалюцыйна-бальшавіцкі на купалаўска-нашаніўскі "Людзьмі звацца!"

Гэта каб свае й чужыя ведалі "чаго захацелася ім"...

Адважны народ у тым "ЛіМе", што й гаварыць...

## ЧВЕРЦЬ НА ВАЕННАЕ

Падчас 28—га зьезду КПСС у Маскве міністар замежных спраў Шэварнадзэ сказаў у сваім выступленьні, што цэлая адна чацьвёртая нацыянальнага даходу "імпэрыі зла" йдзе на ўзбраеньне. А Фідэль Кастра і ягоны "востраў свабоды" каштуе Маскве шэсьць міліярдаў даляраў у год.




## ВІНШУЕМ

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў віншуе лейтананта Віктара Дубягу з 50 угодкамі ад нараджэньня, ды зычыць яму добрага здароўя, доўгіх і памысных год жыцьця, посьпехаў у працы на вэтэранскай і грамадзкай ніве.

*Галоўная Кватэра ЗБАВ*

На банкеце ў гонар 50-гадовага лейтананта Віктара Дубягі 19-га травеня прысутнічала больш сотні асобаў. Лейтанант Віктар Дубяга ёсьць сябрам Галоўнай Кватэры ЗБАВ і афіцэрам сувязі з амэрыканскімі вэтэранамі беларускага паходжаньня.

## ВІНШУЕМ

нашага адданага супрацоўніка Янку Гавеньчыка, з Сыднэю, Аўстралія, які нядаўна стаўся дзедам, бо ў сям'і зьявілася унучка —

якому споўнілася 70 гадоў,

*Табе, Дзед Янка,*
*жадае сто год*
*увесь беларускі*
*зычлівы народ!*

*Хай з Богам расьце*
*унучка Аманда*
*і сьпее пад дзедавай*
*добрай камандай!*

*"Зважай"*

## ПАМЁР БАЛЕСЛАЎ ЛІШЧОНАК

Сёлета 12-га ліпеня ў Ашаве памёр Балеслаў Лішчонак, народжаны ў вёсцы Недаль на Меншчыне 10.8.1919. Нябожчык быў ведамым музыкам, што некалі меў сваю аркестру "Ашава Мэлёды", апрацоўваў і выдаў кружэлкі беларускіх песьняў і танцаў пра помачы "Пагоні", да якой належаў. Быў ён таксама сябрам Згуртаваньня Беларусаў Канады, належаў да парафіі БАПЦ Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Тароньце, часта грашмі ўспамагаў і наш часапіс.

Агулам Балеслаў Лішчонак на працягу доўгіх гадоў быў ахвярным і адданым працаўніком. Ён належаў да шэрагу тых перадавікоў, ці, як у нас прынята на эміграцыі называць іх, — асноўных слупоў — каторыя на сваіх плячох трымалі гэтта й далей трымаюць сваёй працай і грашовай ахвярнасьцю нашае беларускае нацыянальнае жыцьцё на эміграцыі. За гэта Нябожчыку належыцца вялікая пашана. Спачуваем ягонае радні!

Табе, Дарагі Балеслаў, **Вечная Памяць!**

## У СПРАВЕ ІМІГРАЦЫІ Ў КАНАДУ

Атрымліваем лісты ад суродзічаў з розных краінаў з просьбамі, каб памаглі ім іміграваць у Канаду. У сувязі з гэтым выясьняем: ані Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў, ані ягоны часапіс "Зважай" ніколі ня ставілі сваёй мэтай займацца справамі іміграцыі ў Канаду. На гэта ня было ў нас і няма ані сродкаў, ані часу. Зацікаўленым эміграцыяй у Канаду раім зьвяртацца па інфармацыі да нашых амбасадаў у тых краінах дзе пражываеце.

*"Зважай"*


Сьцяжная Варта сьхіляе сьцягі перад помнікам Змагаром за Вольнасьць Беларусі

## ДЗЕНЬ ПАМІНКАЎ

Сёлета Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў урачыста сьвяткавала Дзень Памяці (Memorial Day) пры Помніку Беларускім Гэроям у Іст Брансвіку, Ню Джэрзы. Цырымонія распачалася падняцьцем амэрыканскага й беларускага сьцягоў, салютам да сьцягу й прысягай, якую сказаў ад'ютант Галоўнай Кватэры ЗБАВ Лявон Шурак. Перад помнікам злажылі памінкавы вянок.

Пратаярэй Васіль Андраюк служыў паніхіду за душы ўсіх тых, што аддалі жыцьцё ў збройным змаганьні за вольнасьць свае бацькаўшчыны, каторых чужы маскоўскі акупацыйны рэжым замардаваў у Курапатах, што спачываюць у ведамых і няведамых магілах Гулагу, раськіданых па ўсіх прасторах "імпэрыі зла".

У сваёй прамове Сяргей Гутырчык, камандзер ЗБАВ на Амэрыку падзякаваў айцу Васілю за малітвы а ўсім прысутным за іхны ўдзел. Камандзер Гутырчык прыгадаў, што "на працягу гісторыі нашага народу беларускі жаўнер бараніў веру й межы сваёй бацькаўшчыны з усходу й захаду і найбольшыя ахвяры ў гэнай абароне злажыў у першую й другую сусьветныя войны". У ліку беларускіх патрыётаў, што адыйшлі ў вечнасьць і спачываюць тут-жа на беларускім могільніку камандзер Гутырчык назваў мітр. прат. Хвёдара Данілюка, што браў удзел у Слуцкім змаганьні супраць маскоўскіх бальшавікоў. Таксама згадаў ён і амэрыканскіх жаўнераў беларускага паходжаньня, што ў Карэі і Ветнаме змагаліся супраць таго самага ворага, як некалі і іхныя бацькі — супраць антынароднага й ненавіснага камунізму. Наапошку адсьпявалі "Сьпі пад курганам гэрояў".

*Сяргей Пчала*